ПРОЛЕТАРЫ УСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!



# БЛЁК-НОТ АГІТАТАРА

АГІТМАСАВЫ АДДЗЕЛ ЦК КП(б)Б
І РЭСПУБЛІКАНСКАЯ КОМІСІЯ ПА ЧЫСТЦЫ

## АБ ЧЫСТЦЫ ПАРТЫІ

ЧЭРВЕНЬ

ДВБ ПАРТМАССЭКТАР

1933

№ 11 (26)

# АБ ЧЫСТЦЫ ПАРТЫІ

(Гутарка члена рэспубліканскай комісіі па чыстцы партыі т. Лычова з групавымі агітатарамі)

1. **Пытаньне:** Ці будзе чыстка компартый у капіталістычных дзяржавах, калі будзе, то як?

**Адказ:** Ёсьць пастанова II конгрэсу Комінтэрну аб тым, што комуністычныя партыі пэрыодычна праводзяць чыстку там, дзе яны легальна працуюць, а там, дзе нелегальна, там ніякіх пэрыодычных і адкрытых чыстак ня бывае і ня будзе. Там чыстка праходзіць іншым парадкам.

Работа партыі ў падпольлі, пад пагрозай турмы, катаргі, шыбеніцы, дае ўжо пэўную гарантыю, што ў гэтую падпольную партыю ідуць людзі толькі для таго, каб цалкам сябе аддаць барацьбе за комунізм, ідуць самааданыя барацьбіты за комуністычную ідэю.

Праўда, партыя бальшавікоў заўсёды сачыла і ахоўвала чыстату сваіх радоў і ў падпольлі. І ў царскім падпольлі, хоць наша партыя не праводзіла офіцыйных чыстак, яна ўсяляк ахоўвала свае рады ад пранікненьня ў іх провокатараў, чуждых элемэнтаў, меншавікоў, трацкістаў і т. д. Уся гісторыя нашай партыі—гэта гісторыя барацьбы

за жалезнае адзінства сваіх радоў, за жалезную дысцыпліну, супроць усіх тых, хто прабаваў падмяніць рэволюцыйную тэорыю пышнай фразай, згодніцтвам з буржуазіяй і т. д. Яшчэ задоўга да Кастрычніцкай рэволюцыі Ленін пісаў:

> «Партыя ёсьць дабраахвотны саюз, які нямінуча-б распаўся, спачатку ідэйна, а потым і матэрыяльна, калі-б ён не ачышчаў сябе ад членаў, якія прапаведуюць антыпартыйныя погляды» (Ленін, т. VIII, стар. 389) («Правда» ад 31 мая 1933 г.).

2. **Пытаньне:** Якія прычыны выклікалі чыстку партыі, чаму яна праводзіцца іменна цяпер, ці будуць чысткі партыі ў будучым?

**Адказ:** Наша партыя на працягу ўсяго часу свайго існаваньня вяла няўхільную барацьбу за чыстату сваіх радоў. Гэтую барацьбу партыя, пасьля таго, як яна стала кіруючай партыяй, ня толькі не аслабляе, але наадварот, праводзіць з яшчэ большай жорсткасьцю.

Наконт чысткі партыі Ленін пісаў:

> «Уся справа ў тым, каб кіруючая партыя, якая апіраецца на здаровую і моцную перадавую клясу, умела праводзіць чыстку сваіх радоў...
>
> ...Чыстка партыі, зьвязаная з няўхільным **павышэньнем яе патрабавальнасьці**

адносна работы сапраўды комуністычнай, будзе паляпшаць **апарат** дзяржаўнай улады і гіганцкі набліжаць **канчатковы пераход** сялян на бок рэволюцыйнага пролетарыяту» (Ленін, т. XXIV, стар. 346).

Выходзячы з гэтых указаньняў Леніна, якія знайшлі сваё адлюстраваньне ў пастанове II конгрэсу Комінтэрну аб пэрыодычнай чыстцы асабовага складу партыйных організацый тых краін, дзе комуністы вядуць сваю работу легальна, наша партыя, штодзенна правяраючы свае рады праз органы контрольных комісій у бягучай рабоце, на пэўных этапах праводзіць генэральную праверку і чыстку сваіх радоў.

Такімі рашаючымі этапамі, у часе якіх партыя ставіла перад рабочай клясай новыя задачы, якія забясьпечваюць пераможны рух уперад, да канечнай мэты—пабудовы комуністычнага грамадзтва—былі: 1921 г.—год пераходу да новай экономічнай політыкі, 1929 г., калі партыя пераходзіла ў разгорнутае соцыялістычнае наступленьне па ўсім фронце—пэрыод першай пяцігодкі.

Кожны з гэтых этапаў патрабаваў ад партыі і ад усёй рабочай клясы гіганцкага напружаньня сіл і выклікаў разам з тым абвастрэньне супраціўленьня клясавага ворага, які праз сваю агентуру ўнутры партыі—опортуністаў усіх масьцей—прабаваў пахіс-

нуць моц нашай партыі, узарваць яе знутры. Чыстка партыі ва ўказаныя гады яшчэ больш умацавала партыю, узмацніла яе бояздольнасьць шляхам выдаленьня ўсіх дэзорганізатараў, шкурнікаў, яўных і тайных ворагаў рабочай клясы. Умацоўваючы сваю бояздольнасьць і павялічваючы патрабавальнасьць да сваіх членаў адпаведна задачам на пэўных этапах соцыялістычнага будаўніцтва, партыя пасьпяхова выканала пяцігодку ў чатыры гады і канчаткова ўмацавала соцыялістычныя формы гаспадаркі ў вёсцы...

Мы цяпер прыступілі да ажыцьцяўленьня другой пяцігодкі і ставім перад сабой грандыёзьнейшую задачу пабудовы бясклясавага грамадзтва. Ліквідацыя капіталістычных элемэнтаў ня можа праходзіць бяз самага шалёнага супраціўленьня з іх боку. Мы мелі многа прыкладаў шалёнага супраціўленьня клясавага ворага і ў нас, у Беларусі, асабліва ў часе збожжазагатовак. Чым больш пасьпяхова мы рухаемся ўперад, тым супраціўленьне клясавага ворага набывае больш вострыя формы і, як указаў нам наш правадыр т. Сталін, тым больш хітрай становіцца тактыка клясавага ворага. Ён вельмі часта вядзе сваю падрыўную работу супроць нас унутры колгасу, пралязае на завод і фабрыку, у нашы дзяржаўныя ўстановы, пралязае таксама ў нашу партыю.

Да таго-ж неабходна памятаць, што наша партыя, кіруючая партыя, што да яе ліпнуць ўсякія элемэнты дзеля кар'ерысцкіх, карысных мэт.

Пераходзячы ў новы этап соцыялістычнага будаўніцтва, партыя праводзіць цяпер зноў генэральную праверку і чыстку сваіх радоў.

> «Партыя ставіць пытаньне аб чыстцы сваіх радоў не таму, што яна слабая, а таму, што — **моцная і сільная.** Мы ўлічваем, што аграмадны рост нашай партыі і новыя складаныя задачы, якія стаяць перад намі на новым этапе барацьбы ва ўмовах ажыцьцяўленьня другой пяцігодкі, патрабуюць новай праверкі нашых радоў і ачысткі партыі ад наносных элемэнтаў, нямінуча пранікаючых у рады партыі, якая стаіць на чале найвялікшай у сьвеце дзяржавы...
>
> ... Ачышчэньне радоў партыі—неабходны процэс, такі-ж, як процэс ачышчэньня здаровага організму ад нездаровых элемэнтаў» (Кагановіч).

З усяго сказанага вышэй становіцца зразумелым, што ў мэтах умацаваньня дыктатуры пролетарыяту і яго кіруючага авангарду—комуністычнай партыі—мы праводзім пэрыодычныя праверкі і чысткі партыі.

3. **Пытаньне:** Чым адрозьніваецца чыстка партыі 1933 г. ад папярэдніх чыстак?

**Адказ: «Новае** ў чыстцы партыі 1933 г. заключаецца ў тым, што ЦК і ЦКК рэкомэндуюць пры чыстцы пераводзіць у кандыдаты партыі ня ў выглядзе партспагнаньняў, а ў мэтах палітычнага выхаваньня і лепшай падрыхтоўкі таварышоў, «адданых справе рабочай клясы і паказаўшых на справе—на вытворчасьці, у колгасах—сваю адданасьць, але ня ўсвоіўшых самых элемэнтарных палітычных ведаў, неабходных для члена комуністычнай партыі—програмы, статуту і важнейшых рашэньняў партыі». Надзвычай важна падкрэсьліць ва ўсім ходзе чысткі, што гэтая мера **ня ёсьць пакараньне,** ня ёсьць партыйнае спагнаньне, што гэта ёсьць толькі мера падняцьця палітычнага ўзроўню кожнага кандыдата партыі, а значыцца і ўсёй партыі...

...Тое самае ў адносінах тых кандыдатаў,

> «якія ня толькі ня маюць элемэнтарных палітычных ведаў, неабходных для кандыдата, але хварэюць яшчэ на няўстойлівасьць і адсутнасьць дастатковай вытрыманасьці з пункту гледжаньня партыйнай дысцыпліны».

Такіх таварышоў ЦК і ЦКК рэкомэндуюць пры праверцы пераводзіць ў разрад спачуваючых. У мінулым мы ўжо мелі вопыт організацыі груп спачуваючых. Само сабой зразумела, што партыя ўдзеліць і гэтым

групам неабходную ўвагу. Яна не адгародзіцца ад гэтых таварышоў, якіх трэба яшчэ праверыць на справе, даць ім магчымасьць вырасьці для ўдзелу ў партыйнай рабоце ў якасьці роўнапраўных членаў. Але партыя ня можа дазволіць сабе мець у сваіх радох людзей, якія сваёй няўстойлівасьцю, адсутнасьцю дастатковай вытрымкі, незахоўваньнем партыйнай дысцыпліны перашкаджаюць правядзеньню ў жыцьцё яе рашэньняў, хоць-бы гэтыя таварышы і былі адданы справе рабочай клясы» (Е. Яраслаўскі, «Правда» ад 6 мая 1933 г.).

Такім чынам, новае ў чыстцы 1933 г. у параўнаньні з папярэднімі чысткамі заключаецца ў тым, што:

1) Рэкомэндуецца комісіям па чыстцы пераводзіць членаў партыі ў кандыдаты ня ў выглядзе партспагнаньня.

2) Рэконмэндуецца комісіям па чыстцы пераводзіць кандыдатаў у спачуваючыя ня ў выглядзе партспагнаньня.

3) Партспагнаньні будуць выносіцца толькі—выключэньне з партыі, у адрозьненьне ад папярэдніх чыстак, калі выносіліся папярэджаньні, вымовы, строгія вымовы і выключэньні з партыі.

4. **Пытаньне:** Хто павінен уваходзіць у комісію па чыстцы партыі?

**Адказ:** У комісію па чыстцы партыі павінны ўваходзіць такія члены партыі, якія

ня былі ў іншых партыях, якія не хварэлі і не хварэюць рознай качкай — налева, направа, а сапраўды зьяўляюцца барацьбітамі за генэральную лінію партыі; члены партыі, якія беззаганны ня толькі ў палітычных адносінах, але і этычных. Члены раённых комісій павінны мець партстаж 10 год, члены ячэйкавых комісій—7 год.

5. **Пытаньне:** Ці будуць пры чыстцы цікавіцца бытавым жыцьцём комуніста?

**Адказ:** У адносінах праверкі бытавога боку жыцьця комуніста, рашэньнем ЦК і ЦКК УсеКП(б), даецца насутнае ўказаньне: «Змагаючыся супроць бытавога разлажэньня і няпрыстойных паводзін членаў партыі (п'янства, бытавое разлажэньне, бытавая змычка з чуждымі элемэнтамі, антысэмітызм і да т. п. зьявы, несумяшчальныя са званьнем комуніста), комісіі па чыстцы не павінны ні ў якім разе дапускаць дробязьлівага і прыдзірлівага капаньня ў асабовым быце».

У кожнага чалавека ў яго асабовым жыцьці могуць быць дробныя недахопы і калі яны не перарастаюць у факты, якія маюць грамадзкае значэньне, то капацца ў іх непатрэбна і апрача шкоды гэта прынесьці нічога ня можа.

6. **Пытаньне:** Ці будуць цікавіцца комісіі пытаньнем аб сувязі комуніста з масамі?

**Адказ:** Ячэйкавыя і раённыя комісіі абавязаны высьніць як кожны комуніст і кандыдат партыі зьвязан з масамі, якую работу ён праводзіць сярод працоўных. Кожны член і кандыдат партыі павінен быць у авангардзе, пропагандыстам мэт і задач партыі, організатарам выкананьня гэтых задач. Авангардная роля комуніста на любым вучастку работы забясьпечвае аўторытэт сярод беспартыйных.

7. **Пытаньне:** Хто вызваляецца ад чысткі?

**Адказ:** Гэта апублікавана ў пастанове ЦК і ЦКК УсеКП(б) аб чыстцы нашай партыі. Вызваляюцца ад чысткі партыі толькі члены ЦК Усе КП(б), члены ЦКК УсеКП(б) і члены рэвізійнай комісіі ЦК УсеКП(б). Усе астатнія падвяргаюцца чыстцы, у тым ліку і члены ЦК і ЦКК КП(б)Б. Яны будуць чысьціцца ў тых ячэйках, дзе яны прымацаваны і дзе працуюць, самым звычайным парадкам, як усе члены партыі. Яшчэ вызваляюцца ад чысткі начальнікі політаддзелаў, якія перад пасылкай у політаддзелы прайшлі праверку ў спэцыяльнай комісіі ЦКК УсеКП(б) раней чым іх ЦК зацьвярджаў начальнікамі.

8. **Пытаньне:** Каго партыя вычысьціць з сваіх радоў?

**Адказ:** У пастанове ЦК і ЦКК УсеКП(б) сказана, што:



«З партыі вычышчаюцца:

1) клясава чуждыя і варожыя элемэнты, якія ашуканскім шляхам прабраліся ў партыю і астаюцца там для разлажэньня партыйных радоў;

2) двурушнікі, якія жывуць ашуканствам партыі, скрываюць ад. яе сапраўдныя імкненьні і пад прыкрыцьцем ілжывай клятвы ў «вернасьці» партыі, прабуюць сарваць на справе палітыку партыі;

3) адкрытыя і скрытыя нарушальнікі жалезнай дысцыпліны партыі і дзяржавы, якія ня выконваюць пастаноў партыі і ўраду, бяруць пад сумненьне і дыскрэдытуюць рашэньні і ўстаноўленыя партыяй пляны балбатнёй аб іх «нерэальнасьці» і «неажыцьцявімасьці»;

4) перараджэнцы, якія зрасліся з буржуазнымі элемэнтамі, не жадаюць змагацца на справе з клясавымі ворагамі, не змагаюцца на справе з кулацкімі элемэнтамі, рвачамі, лодырамі, зладзеямі і раскрадальнікамі грамадзкай уласнасьці;

5) кар'ерысты, шкурнікі і абюрократыўшыяся элемэнты, якія скарыстоўваюць прабываньне ў партыі і службу ў савецкай дзяржавы, для сваіх асабістых шкурніцкіх мэт, адарваліся ад мас

і ня дбаюць аб патрэбах і запатрабаваньнях рабочых і сялян;

6) тыя, якія маральна разлажыліся, зьніжаюць сваімі няпрыстойнымі паводзінамі вартасьць партыі, забруджваюць сьцяг партыі».

Лёс усіх іх такі, што іх мы выганім і выганім па-бальшавіцку і гэтым зробім партыю яшчэ больш монолітнай, згуртаванай і павысім пільнасьць нашых партыйных організацый. Задача заключаецца ня толькі ў тым, каб вызваліць партыю ад гэтых элемэнтаў, а таксама і ў тым, каб навучыць партыйныя організацыі, якія прынялі нядобрасумленных, антыпартыйных людзей у свае рады, у далейшым больш асьцярожна прымаць у партыю.

У нашу партыю апрача рабочых уваходзяць розныя праслойкі працоўных, якія больш лёгка паддаюцца дробнабуржуазным уплывам. Сама рабочая кляса таксама неаднародная і не адгароджана кітайскай сьцяной ад гэтых праслоек. Гэты ўплыў дробнай буржуазіі знаходзіць сваё выражэньне ў адыходзе ад генэральнай лініі партыі найменш устойлівых элемэнтаў у нашых радох. Вядома, якую вялікую растлумачальную работу правяла партыя па выкрыцьці гэтых элемэнтаў, у рэзультаце якой уся партыя, згуртаваўшыся вакол ленінскага ЦК, выкі-

нула з сваіх радоў адных і прымусіла зразумець свае найглыбейшыя памылкі другіх.

Такім чынам, у нашай партыі не апраўдваюць сябе тыя, хто па сваёй прыродзе чужды партыі, хто ў тэй або іншай ступені блізкі да дробнабуржуазных элемэнтаў і лёгка паддаецца ўплыву апошніх, а таксама і тыя, якія не падняліся да правільнага разуменьня рашэньняў партыі.

9. **Пытаньне:** Ці будуць выключацца з партыі асобы, бацькі якіх зьяўляюцца соцыяльна-чуждымі элемэнтамі, але жывуць гэтыя асобы самастойна?

**Адказ:** Правяраючы свае рады, партыя ўважліва знаёміцца ня толькі з соцыяльным становішчам, але таксама і з паходжаньнем члена партыі.

Наша комуністычная партыя зьяўляецца такой партыяй, якая падыходзіць да вырашэньня таго або іншага пытаньня дыялектычна. Што гэта значыць? А гэта значыць тое, што мы ня можам падыходзіць да вырашэньня данага пытаньня «з кандачка», простым росчыркам пяра.

Зусім бясспрэчным зьяўляецца той факт, што людзі выхоўваюцца пад уплывам таго асяродзьдзя, у якім яны расьлі і з якім яны ў выніку гэтага зьвязаны шматлікімі ніцямі. Натуральна, такім чынам, што соцыяльнае паходжаньне ў значнай ступені вызначае псыхолёгію данай асобы.

Разам з тым, мы сустракаем рад выпадкаў, калі людзі з варожага пролетарыяту асяродзьдзя здольны ў рэзультаце росту свайго ўзроўню разьвіцьця і сазнаньня стаць на пункт гледжаньня задач пролетарыяту і чэстна ісьці з ім нага ў нагу, даказаўшы гэта на справе ўсёй сваёй практычнай работай. Для падобнага роду асоб мае значэньне зьмяненьне асяродзьдзя, бо новая абстаноўка садзейнічае зьмяненьню іх поглядаў і адносін.

Вядомы выпадкі, у прыватнасьці я сустракаўся з імі асабіста, калі поп зьняў расу, заняўся антырэлігійнай пропагандай, працаваў у выканкоме, не пакладаючы рук. Дзеці яго былі на франтох і цяпер некаторыя з іх зьяўляюцца членамі партыі. Ці можам мы такому члену партыі паставіць у віну, толькі адно тое, што бацька яго быў папом. Не, ня можам.

Але бываюць выпадкі адваротнага парадку— калі бацькі, астаючыся чуждымі пролетарыяту элемэнтамі, прадаўжаюць аказваць уплыў на члена партыі, які падпадае пад гэты ўплыў, выкарыстоўваюць яго становішча для прыкрыцьця сваіх эксплёататарскіх імкненьняў і т. д., тады зусім відавочна, што гэтым элемэнтам няма месца ў радох партыі.

Трэба ўспомніць, якія высокія патрабаваньні да ідэйнай чыстаты радоў партыі

прад'яўлялі Маркс і Энгельс і асабліва ў адносінах да выхадцаў з непролетарскіх слаёў.

> «Калі да пролетарскага руху далучаюцца прадстаўнікі іншых кляс, то перш за ўсё ад іх патрабуецца, каб яны ня прыносілі з сабой рэшткаў буржуазных і дробна-мяшчанскіх прадрассудкаў, а безагаворачна ўсвоілі пролетарскі сьветапогляд»—чытаем мы ў адным з пісем Маркса—Энгельса («Цыркулярнае пісьмо» да Бэбэля, Лібкнэхта, Браке і інш., 1879 г.).

10. **Пытаньне:** Ці будуць пераводзіцца ў кандыдаты партыі з членаў такія комуністы, якія ня могуць цяпер па сваёй старасьці вучыцца?

**Адказ:** Тут таксама трэба падыходзіць дыялектычна.

Калі ён ўчора паступіў у партыю, партыя ўлічыць гэта, калі-ж ён паступіў ня ўчора, а ўжо скажам 10 год знаходзіцца ў радох партыі, то ня гледзячы на яго стары ўзрост, комісіі па чыстцы, бязумоўна, павінны прад'яўляць да гэтых таварышоў тыя-ж патрабаваньні, што і да ўсіх членаў партыі, незалежна ад узросту.

11. **Пытаньне:** Ці зьяўляецца перавод у кандыдаты і з кандыдатаў у спачуваючыя пакараньнем, і што прадстаўляе сабой разрад

спачуваючых, ці няма ў гэтым нарушэньня статуту партыі?

**Адказ:** Пастанова ЦК і ЦКК УсеКП(б) ад 28-IV—33 г. па гэтым пытаньні гаворыць наступнае:

«З прычыны таго, што сярод **членаў партыі,** уступіўшых за апошні час у рады УсеКП(б) ёсьць частка таварышоў, адданых справе рабочай клясы і паказаўшых на справе—на вытворчасьці ў колгасах — сваю адданасьць, але ня ўсвоіўшых самых элемэнтарных палітычных ведаў, неабходных для члена комуністычнай партыі—програмы, статуту, важнейшых рашэньняў партыі — Цэнтральны комітэт і Цэнтральная контрольная комісія партыі рэкомэндуюць пры чыстцы пераводзіць такіх комуністаў у **кандыдаты партыі,** ня ў выглядзе партспагнаньняў, а ў мэтах іх палітычнага выхаваньня і лепшай падрыхтоўкі з тым, каб праз год паставіць пытаньне аб іх пераводзе зноў у члены партыі, калі яны здолеюць за гэты год павысіць сваю палітычную пісьменнасьць, неабходную для члена партыі.

З прычыны таго, што ў выніку тыхжа абставін у складзе **кандыдатаў партыі** аказалася немалая колькасьць таварышоў, якія ня толькі ня маюць эле-

мэнтарных палітычных ведаў, неабходных для кандыдата, але хварэюць яшчэ на няўстойлівасьць і адсутнасьць дастатковай вытрыманасьці з пункту гледжаньня партыйнай дысцыпліны, Цэнтральны комітэт і Цэнтральная котрольная комісія партыі рэкомэндуюць пры чыстцы пераводзіць такіх таварышоў з разраду кандыдатаў у **разрад спачуваючых** з тым, каб праз год паставіць пытаньне аб іх пераводзе зноў у кандыдаты ці аб прыёме іх у члены партыі, калі праверка пакажа, што яны ў поўнай меры гатовы для гэтага».

З гэтай пастановы зусім відавочна, што партыя будзе разглядаць гэтых таварышоў, не як людзей, пакараных за якія-небудзь праступкі, а як таварышоў, якія маюць за сабой усе даныя, каб у рэзультаце работы над павышэньнем свайго ўзроўню разьвіцьця, вядома пры ўсямернай дапамозе сваёй партыйнай організацыі, зноў быць пераведзенымі ў кандыдаты або члены партыі.

Значэньне разраду спачуваючых выцякае ўжо з самой назвы. Гутарка ідзе аб такіх таварышох, якія бязумоўна спачуваюць партыі, якія зрабілі спробу шчыльна падыйсьці да партыі, блізкі ёй, але не папрацавалі над сабой, ня маюць нават мінімальных палітычных ведаў і не праніксліся сазнаньнем пар-

тыйнай дысцыпліны, [illegible]наго траціцца грань паміж кандыдатам і [illegible]партыйным.

Зводзіць пытаньне аб спачуваючых да момактаў фармальнага характару, падобна да таго, што ці не зьяўляецца нарушэньнем статуту партыі ўвядзеньне разраду спачуваючых няправільна і шкодна. Партыя ў асобе яе ЦК можа ўносіць неабходныя зьмяненьні ў існуючы статут, калі гэта патрэбна і мэтазгодна. Асноўнае ў гэтым пытаньні заключаецца ў тым, каб не дапусьціць сьціраньня грані паміж кандыдатам у члены партыі і беспартыйным з аднаго боку, і з другога боку, захаваць сувязь гэтых таварышоў з партыяй і пры яе актыўным садзейнічаньні дапамагчы гэтым таварышом зноў перавесьціся ў кандыдаты і члены партыі.

12. **Пытаньне:** Як будуць пры чыстцы разглядаць тых партыйцаў, якія вялі фракцыйную барацьбу супроць партыі?

**Адказ:** Праверка гэтых членаў партыі будзе праводзіцца з асаблівай пільнасьцю. Партыя ведае многа прыкладаў двурушніцтва, прызнаньня такімі членамі партыі сваіх памылак на словах і правядзеньне сваіх асуджаных партыяй поглядаў на справе. Такога роду асобы ўсямерна стараюцца маскавацца, каб мець магчымасьць, прыкрываючыся партыйным білетам, тварыць беспакаранна контрэволюцыйныя справы. Выявіць іх сапраўд-

ны твар і ачысьціць ад іх партыйныя рады—гэта адна з першачарговых задач чысткі. Толькі той з іх, хто сваёй практычнай работай даказаў, што ён сапраўды асазнаў свае памылкі і чэсна змагаецца ў радох партыі за ажыцьцяўленьне генэральнай лініі партыі, толькі той з іх павінен будзе астацца ў партыі.

13. **Пытаньне:** Ці будуць строга адносіцца да тых членаў партыі, якія зьяўляюцца добрымі актывістамі, але ня выконваюць прамфінпляну?

**Адказ:** Дрэнны той комуністы і актывіст, які вельмі многа балбоча і яго таму памылкова лічаць актывістам, а прамфінплян ён ня выконвае. Гэта не актывіст. Актывістам зьяўляецца той, у якога словы не разыходзяцца са справай, які добра праводзіць усе мерапрыемствы партыі на справе, на конкрэтнай справе і прамфінплян выконвае і цэлы рад іншых даручэньняў выконвае з чэсьцю. Такі таварыш сапраўдны актывіст і заслугоўвае насіць званьне комуніста..

14. **Пытаньне:** Ці будуць пры чыстцы падрыхтаваных кандыдатаў партыі пераводзіць у члены партыі?

**Адказ:** Пераводзіць кандыдатаў у члены партыі комісія не ўпаўнаважана, і ня будзе гэтага рабіць. Але комісія можа рэкомэндаваць тэй або іншай партыйнай організацыі пераводзіць кандыдата ў члены партыі, калі

даны кандыдат дастаткова палітычна пісьменны і падрыхтован насіць званьне члена партыі, а тая або іншая парторганізацыя, дзякуючы сваім няўважлівым адносінам нагул да кандыдатаў, марынавала яго.

15. **Пытаньне:** Што будуць патрабаваць ад члена і кандыдата партыі ў сэнсе яго палітычнай адукацыі ў часе чысткі і як будзе з тымі, якія палітычна малапісьменныя, але на вытворчасьці працуюць аддана, ці будуць яны пераводзіцца ў кандыдаты?

**Адказ:** Асноўнае патрабаваньне для члена і кандыдата партыі—гэта веданьне праграмы, статуту і асноўных рашэньняў партыі. Мы будзем патрабаваць, каб кожны член партыі, які мае партыйны білет, выконваў чэсна і добрасумленна дырэктывы нашай партыі, а гэта значыць, што кожны член партыі абавязан ведаць важнейшыя рашэньні партыі.

Ад члена партыі на заводзе будзем патрабаваць, каб ён абавязкова прымаў удзел у соцспаборніцтве і ўдарніцтве, у выкананьні прамфінпляну і будзем правяраць яго авангардную ролю на вытворчасьці.

Ад члена партыі ў вёсцы будзем патрабаваць і правяраць наколькі ён зьяўляецца перадавым барацьбітом за колгаснае будаўніцтва, будзем патрабаваць, каб ён быў ударнікам у брыгадзе, каб ён прымаў удзел у соцспаборніцтве.

Калі-ж члены партыі плятуцца ў хвасьце, яны ня могуць быць членамі партыі.

Комуніст—гэта той чалавек, які зьяўляецца вядучым на любым вучастку: заводзе, колгасе, прадпрыемстве і ўстанове.

Зразумела, што ў часе чысткі праверачныя комісіі ня будуць наладжваць што-небудзь накшталт экзамэнаў, ня будуць патрабаваць хронолёгіі гісторыі партыі, але ў той-жа час, бязумоўна, комісіі будуць патрабаваць, каб члены партыі разумелі задачы і мэты партыі. Комісіі па чыстцы будуць улічваць агульнае разьвіцьцё партыйца, і, зразумела, ад таго таварыша, які меў большую магчымасьць падрыхтавацца, праверачныя комісіі будуць патрабаваць большых ведаў.

> «Да ўсіх членаў партыі комісія па чыстцы павінна прад'яўляць патрабаваньні веданьня програмы партыі, яе статуту, важнейшых рашэньняў партыі. Ня можа быць комуніста, які ня ведае програмы, статуту сваёй партыі і яе важнейшых палітычных і організацыйных рашэньняў. Аднак, комісіі па чыстцы не павінны пры індывідуальнай праверцы палітычнай пісьменнасьці задаваць правяраемаму заблытаныя, «прыдзірлівыя», «каверзныя» пытаньні. Яны павінны лічыцца з агульным узроўнем разьвіцьця правяраемага з тым, каб не пакінуць за межамі партыі бяз-

умоўна даказаўшых адданасьць справе партыі і будаўніцтву соцыялізму таварышоў, якія ня мелі магчымасьці ў дастатковай ступені падняць узровень палітведаў, асабліва рабочых і колгасьнікаў» (Пастанова ЦК і ЦКК УсеКП(б).

Што датычыцца пераводу з членаў у кандыдаты і спачуваючыя, то гэта дакладна сформулявана ў пастанове ЦК і ЦКК УсеКП(б) ў інструкцыі па чыстцы. І калі на вытворчасьці работнік хоць і адданы непасрэдна сваёй справе, але ня ўсвоіў асноўнага, што патрабуецца ад члена партыі, ня ведае програмы, статуту партыі і т. д., то ён будзе пераведзен у кандыдаты, каб даць яму магчымасьць падрыхтавацца стаць сапраўдным членам комуністычнай партыі.

«Сама па сабе пастаноўка пытаньня аб пераводзе з членаў партыі ў кандыдаты і з кандыдатаў у спачуваючыя за няведаньне элемэнтарных палітычных пытаньняў азначае, што мы прад'яўляем да члена і кандыдата партыі не празьмерныя патрабаваньні, выкліканыя неабходнымі акалічнасьцямі, а зусім нормальныя патрабаваньні для члена кіруючай партыі, які ўжо пры ўступленьні ў партыю павінен адрозьнівацца ад беспартыйных іменна сваёй большай сьвядомасьцю і перадавітасьцю» (К а г а н о в і ч).

16. **Пытаньне:** Чаму да гэтага часу не ўдзялялі сур'ёзнай увагі партвучобе, а цяпер за кароткі пэрыод перад чысткай хочуць усяму навучыцца?

**Адказ:** Гэтае пытаньне адлюстроўвае настроі паасобных членаў партыі і кіруючых партыйных органаў, ячэек і комуністаў, якія раней у сваёй практычнай рабоце ня выконвалі рашэньняў партыі аб усямерным павышэньні політычнага ўзроўню членаў і кандыдатаў партыі.

Партыя заўсёды патрабавала і патрабуе ад кожнага члена партыі і ад кіруючых партыйных органаў няспыннай работы ў гэтым абсягу.

Разам з тым, ЦК і ЦКК УсеКП(б) у сваёй пастанове ад 28-IV 1933 г. констатуе «нездавальняючае становішча марксысцка-ленінскага выхаваньня членаў партыі», і ставіць у якасьці аднэй з важнейшых задач чысткі партыі «павышэньне ідэолёгічнага ўзроўню членаў партыі».

Ход падрыхтоўкі да чысткі наглядна паказвае, што гэтае рашэньне ЦК і ЦКК УсеКП(б) асвойваецца парторганізацыямі і справа партвучобы пачынае станавіцца прадметам увагі ўсіх парторганізацый. Усе парторганізацыі павінны быць гатовымі адказаць перад партыяй за гэты адказны вучастак партыйнай работы, але калі хто-небудзь думае за тыдзень усіх членаў партыі зрабіць

політычна пісьменнымі, той вядома глыбока памыляецца. Партвучоба павінна стаць сыстэмай ва ўсёй практычнай рабоце кожнага члена партыі, веды якога павінны няспынна расьці, бо хто топчацца на адным месцы, той няпінуча скатваецца назад.

17. **Пытаньне:** Якія партспаганьні будуць накладацца на партыйцаў, якія доўгі час ня ходзяць на партсходы, ня плацяць членскія ўзносы?

**Адказ:** Вельмі часта ў нас ня толькі радавыя члены партыі забываюць аб тым, што трэба плаціць членскія ўзносы, але таксама і кіраўнікі, сакратары ячэек, члены бюро ячэек, якія павінны за гэтым сачыць, на гэтым выхоўваць нашых членаў партыі. Пытаньне аб членскіх узносах не зьяўляецца толькі пытаньнем матэрыяльнага парадку, а мае і выхаваўчае значэньне. Кожны член партыі ўступае ў партыю дабраахвотна, організуецца ў моцны саюз ідэйна спаяных людзей, якія бяруць на сябе пэўныя абавязацельствы і калі ён ня выконвае гэтыя абавязацельствы перад партыяй ён ня можа зьяўляцца членам партыі, ён яшчэ да гэтага не дарос. Такіх можна перавесьці ў кандыдаты, з тым, каб яны навучыліся быць ня толькі па названьні членамі партыі, але і выконваць статут і програму нашай партыі. Гэта прывучае да дысцыпліны. Таму нам дораг гэты рубель з двух пунктаў гледжаньня,

па-першае, як матэрыяльная база для правядзеньня раду мерапрыемстваў і, па-другое, як выхаваўчы фактар.

18. **Пытаньне:** Ці будуць прымацца пад увагу партспагнаньні, якія мелі партыйцы да чысткі?

**Адказ:** Наяўнасьць партспагнаньняў сьведчыць аб тым, што даны член партыі зрабіў праступак супроць партыі. Правяраючы данага таварыша, праверачная комісія высьвятляе наколькі ён зжыў свае недахопы, наколькі, калі ўдзельнічаў у тэй або іншай опозыцыі, поўнасьцю зжыў сваё опозыцыйнае мінулае ў процэсе работы. Калі ён гэта зжыў, то комісія будзе лічыць яго правераным, а пытаньне аб партспагнаньнях і аб зьняцьці партспагнаньняў няхай ён ставіць у тэй організацыі, якая на яго наклала партспагнаньне.

19. **Пытаньне:** Колькі часу працягнецца чыстка?

**Адказ:** Пастановай ЦК і ЦКК вызначана, што ў 1933 г. мы павінны закончыць чыстку. Чыстка нашай парторганізацыі павінна быць закончана не пазьней 1 лістапада 1933 г. з тым, каб падвесьці да канца году вынікі нашай чысткі.

20. **Пытаньне:** У чым павінен выражацца ўдзел беспартыйных мас у чыстцы партыі; ці могуць беспартыйныя рабочыя

падаваць матэрыял на праверачную комісію па чыстцы?

**Адказ:** Наконт удзелу беспартыйных мас ў чыстцы партыі Ў. І. Ленін пісаў:

> «Ёсьць месцы, дзе чысьцяць партыю, апіраючыся галоўным чынам, на вопыт, на указаньні беспартыйных рабочых, кіруючыся іх указаньнямі, лічачыся з прадстаўнікамі беспартыйнай пролетарскай масы... Зразумела, ня ўсім указаньням масы мы падначалімся, бо маса таксама часам паддаецца—асабліва ў гады выключнай стомленасьці, пераўтамленьня празьмерным цяжарам і мучэньнямі—паддаецца настроям ніколькі не перадавым. Але ў ацэнцы людзей, у адмоўных адносінах да «прымазаўшыхся», да «закамісарыўшыхся», да «абюрократыўшыхся», указаньні беспартыйнай пролетарскай масы, а ў многіх выпадках і ўказаньні беспартыйнай сялянскай масы, у вышэйшай ступені каштоўныя. Працоўная маса з вялізарнейшай чуласьцю ўлоўлівае розьніцу паміж сумленнымі і адданымі комуністамі і такімі, якія ўнушаюць агіду чалавеку, у поце твару здабываючаму сабе хлеб, чалавеку, ня маючаму ніякіх прывілей, ніякіх «шляхоў да начальства».

Гэтыя ўказаньні Леніна даюць зусім ясны адказ на ролю і ўдзел беспартыйных у чыстцы партыі, адсюль зусім ясна, што беспартыйныя ня толькі могуць даваць адводы членам праверачных комісій, але кожны чэсны і адданы справе рабочай клясы беспартыйны таварыш павінен лічыць сваім абавязкам дапамагчы партыі выявіць няпрыгодныя элемэнты, «ня гледзячы на асобы». З гэтай мэтай партыя, выдзяляючы таварышоў у раённыя і ячэйкавыя праверачныя комісіі, папярэдня правярае іх саміх на адкрытых партыйных сходах, публікуе фаміліі гэтых таварышоў з тым, каб усе маглі даць аб гэтых таварышох свае меркаваньні.

21. **Пытаньне:** Які ўдзел павінен прымаць у чыстцы партыі комсамол?

**Адказ:** Было-б зусім няправільным разумець так, што раз праводзіцца чыстка **партыі,** комсамолу няма чаго рабіць. Комсамол зьяўляецца першым памочнікам партыі, а адсюль выцякае і задача комсамолу: прыняць самы актыўны ўдзел у чыстцы партыі. Комсамол павінен правесьці растлумачальную работу ў сваіх радох і сярод шматмільённай масы беспартыйнай моладзі аб задачах чысткі, павінен забясьпечыць актыўны ўдзел комсамольцаў і беспартыйнай моладзі на сходах па чыстцы, павінен дапамагаць праверкомам па выяўленьні ўсіх чуждых, прымазаўшыхся, скрыўляючых лінію партыю

элемэнтаў і выяўляць усе памылкі і недахопы ў рабоце партячэек.

Комсамол таксама павінен вучыцца на прыкладах чысткі партыі, скарыстаць чыстку для выхаваньня комсамольцаў, палепшыць комсамольскую вучобу, узмацніць сваю дысцыпліну, узьняць сваю бояздольнасьць.

Правяркомы ў сваю чаргу павінны абавязкова правяраць, як раённыя партыйныя комітэты і партячэйкі ажыцьцяўляюць партыйнае кіраўніцтва комсамолам.

22. **Пытаньне:** Ці будуць прымяняцца партыйныя спагнаньні да работніц-комуністак, якія абцяжарны сям'ёй і з-за хатніх бытавых умоў ня могуць займацца падняцьцем свайго політычнага ўзроўню?

**Адказ:** Да такіх жанчын—членаў і кандыдатаў партыі, абцяжараных сем'ямі, комісіі па чыстцы павінны падыйсьці мякчэй. Комісіі павінны будуць улічыць увесь комплекс сямейных і бытавых абставін гэтых членаў партыі, але гэта зусім не азначае, што пад выглядам таго, што жанчыны заняты дзецьмі, яны могуць не займацца падняцьцем свайго політычнага ўзроўню.

Кожны член партыі павінен займацца сваім выхаваньнем.

> «Бяз ідэйнай узброенасьці ня можа быць сапраўднага комуніста. Марксысцка-ленінская тэорыя ёсьць абагульнены вопыт барацьбы пролета-

рыяту за соцыялізм. Задача кожнага бальшавіка—аўладаць гэтым вопытам, усвоіць гісторыю бальшавізму, усвоіць яе традыцыі. Партыя патрабуе ад кожнага комуніста вывучэньня рэволюцыйнай тэорыі, работы над сабой.

Бо політычна няпісьменны комуніст ня можа быць праваднікам партыйных лёзунгаў і рашэньняў у масы» («Праўда» ад 31 мая 1933 г.)—а бяз гэтага ён не комуніст.

